Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **15 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

**Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 17—19 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

**№ 27 (52)** | **Вільня, 23-га сьнежня 1934 г.** | **Год 2-гі.**

## Французска-Савецкае паразуменьне.

Пасьля вялікіх Жэнэўскіх падзеяў усе з напружаньнем чакалі на плебісцыт у Саарскім басэйне, бо-ж нічога больш важнага ў міжнародныя палітыцы не прадбачылася. Раптам, як гром з яснага неба, новае здарэньне: Масква публікуе тэкст пратаколу, падпісанага ў Жэнэве французскім міністрам Лявалем ды маскоўскім камісарам Літвінавым. Паводле гэтага пратаколу Францыя і СССР *прыракаюць не падпісваць ніякіх умоваў ані агульных ані з паасобнымі дзяржавамі*, запрошанымі да прыняцьця ўдзелу ў так званым *паўночна-ўсходнім саюзе.* Аб усякіх імкненьнях і прапановах для заключэньня якога-небудзь дагавору з боку ўспомненых дзяржаваў *Саветы і Францыя забавязваюцца ўзаемна інфармавацца.*

Гэткая ўмова абавязвае ма Францыю і Саветы ня толькі праз увесь час трываньня перагавораў аб утварэньні ўспомненага паўночна-ўсходняга Саюзу, але й усякіх наступных плянах і намерах, зьвязаных з рэалізацыяй гэтае думкі.

Абодва Урады (Францыі і СССР) прыраклі не адступаць ад гэтае ўмовы бяз супольнае згоды. У прыпадку, калі ўсе захады, скіраваныя да ўтварэньня паўночна-ўсходняга Саюзу да нічога ня прывядуць, Саветы і Францыя супольна нарадзяцца аб сваіх узаемных паступаньнях.

Як відаць з вышпрыведзенага пратаколу, пакуль што яшчэ не наступіла падпісаньне французска-савецкага ваенна-палітычнага Саюзу, як гэта падавалася прэсай, але зроблены толькі як-бы першы шаг. Прычым выразна ў пратаколе падкрэсьліваецца, што ў выпадку няўдачы заключэньня агульнага саюзу, Францыя змушана будзе шукаць сэпаратнага Саюзу з Саветамі. У гэтым зразумела крыецца пагроза для ўсіх праціўнікаў паўночна-ўсходняга Саюзу з аднаго боку, а такжа свайго роду лёяльная перасьцярога пад адрасам Англіі.

Зразумела, што такая ўмова паміж Саветамі й Францыяй скіравана перадусім і галоўным чынам у бок незаключаньня ніякіх сэпаратных саюзаў з Германіяй. Відаць з боку немцаў былі імкненьні да заключэньня нейкіх саюзаў паасобку ці то з Саветамі, ці то з Францыяй, а мо' на'т і з аднэю і з другою дзяржаваю, але *паасобку.*

Такім чынам, жэнэўскае французска-савецкае паразуменьне канчальна спаралiжавала ўсе намеры Германіі і ў сучасны мамэнт магчыма толькі такая разьвязка, *што Францыя, Саветы і Германія* дагаворацца супольна і заключаць ці толькі між сабою, ці яшчэ з іншымі дзяржавамі ваенна-палітычны Саюз.

Гэта відаць добра зразумеў чэха славацкі міністар замежных спраў Бэнэш і пасьпешна далучыўся да жэнэўскага паразуменьня. Так прынамсі паведаміла нас чэха славацкая прэса, хоць ані маскоўскі камунікат, ані афіцыяльнае агенства Гаваса аб гэтым нічога не ўспамінае. Відаць, што некаму гэта нявыгадн.

Сёньняшняе паразуменьне Саветаў з Францыяй, а можа заўтрашні Савецка-Французска-Нямецкі ваенна-палітычны Саюз Польшчы не абнімае і дзеля гэтага, незважаючы на недаўняшнія вялікія дасяжэньні польскае дыплёмацыі, апошняя камбінацыя нічога добрага для Польшчы не варожыць і пакуль успомненая намі ваенна-палітычная камбінацыя трох вялікіх дзяржаўных волатаў яшчэ не сталася фактам закончаным, міністар Бэк павінен напружыць усе свае сілы дзеля заняцьця найвыгаднейшай пазыцыі ў гэтым хітрым дыплёматычным бою. А каб мець найбольшыя шансы на міжнародным форуме, трэба пастарацца завесьці лад і парадак унутры свае хаты. Такім ладам у ўнутраным жыцьці Польшчы, як ведама, зьяўляецца неўпарадкаваньне справы нацыянальных меншасьцяў. Пара ўрэшце зразумець, што гэтая, на першы пагляд благенькая, ўнутраная справа, адыгрывае нярах колёсальную ролю ў міжнародных зносінах Дзяржавы.

Нельга адкладаць унармаваньня справы нацыянальных меншасьцяў, асабліва-ж справы беларускай ды украінскай, да безканечнасьці.

Пара знайсьці ўрэшце на гэта і час і месца, бо ігнараваньне гэтага пытаньня можа ў будучыні прыкра памсьціцца. Трэба памятаць, што Гітлер, у інтэрв'ю сваім, апублікаваным у „Matin" 19 лістапада, рашуча адкідаючы прыпісваныя немцам анэксыйныя намеры ў адносінах да земляў, якія палажаны за заходняй граніцай Германіі, даслоўна сказаў: „на ўсходзе пэўныя пытаньні, зьвязаныя з нашымі ўсходнімі граніцамі, маюць зусім іншы характар". Праўда, тут-жа ён паклікаўся | напольска-нямецкі трак'тат, які, быццам, сьведчыць аб „шчырым жаданьні падтрымліваць добрасуседзкія зносіны з вялікай усходняй Дзяржавай", але не забывайма, што *часы зьмяняюцца,* а зьмена конюнктуры можа пацягнуць за сабою зьмену палітыкі і заўтра Немцы могуць запяяць зусім іншую песьню.

## с. ✝ п. Альбін Стэповіч.

Уночы з 17 на 18 гэтага сьнежня а гадз. 0.30 мін. назаўсёды адыйшоў на той сьвет б. пасол на Сойм (1928-1930 г.) і беларускі журналісты Альбін Стэповіч, пахованы 19 гэтага сьнежня на г. зв. Горцы Літэратароў могільніку Роса.

Бязьлітасная, але няўхільная для кожнага чалавека, сьмерць вырвала Альбіна Стэповіча з ліку жывых у росквіце сілаў, бо нябошчык пражыў роўна 40 гадоў і 9 месяцаў.

Радзіўся А. Стэповіч 18 сакавіка 1894 году ў вёсцы Барані, Сьвянцянскага павету на Віленшчыне, ў сялянскай сям'і.

Пасьля пачаткавае асьветы ў Жукоўнях і сярэдняе ў Вільні, ў Музычнай Школе ім. Монтвіла, А. Стэповіч вучыўся ў Казанскім унівэрсытэце, а з 1921 г. ў Віленскім, у якім пакінуў навуку, будучы выбраным у послы на Сойм па сьпіску Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі.

Некаторы час нябошчык быў вучыцелем б. Віленскае Беларускае Гімназіі, пісаў часам у розных беларускіх часопісях, падаваў весткі аб беларускай справе ў польскіх часопісях Амэрыкі, ды блізка што сыстэматычна выступаў з артыкуламі аб беларускім пытаньні на шпальтах гасьціннага для яго пяра краёвага двутыднёвіка „Przegląd Wileński" пад псэўданімам Alboruthenus.

З радоў беларускае хадэцыі нябошчык выступіў у 1931 г. і з таго часу, як безработны і беспартыйны зьбіраў у сваім скромным памешканьні на Закрэтнай вул. 13, ці ў каго-небудзь з небезработных прыяцялёў, беларускую інтэлегенцыю на г. зв. „пятнічнікі", сам даволі часта выступаў на гэтах пятнічніках з рэфэрэтамі на грамадзка-палітычныя тэмы, крышталізуючы свой новы, ужо нехадэцкі сьветагляд.

Апошнім часам нябошчык А. Стэповіч належаў да беларускіх нацыянал-соцыялістаў Казлоўскага і Акінчыца, хоць і не прызнаваўся да гэтага перад сваімі знаёмымі з „яго" пятніцаў.

Пакінуў беларускую ніву ціхі, спакойны, працавіты ратай, які стараўся, як умеў, прайсьці сваей баразною на родным дзірване.

Вечная яму памяць!

**Пашырайце нашу газэту.**

## Праэкт констытуцыі ў камісыі Сэнату.

Паседжаньне сэнацкай констытуцыйнай камісыі адчыніў вялікай прамоваю віцэ-старшыня Сойму Макоўскі.

Прамоўца зазначыў, што новая констытуцыя навінна даць дзяржаве найлепшую і простую організацыю, гварантуючую позытыўна—творчаю дзяржаўную працу. Пасьля праф. Макоўскі даў характэрыстыку эволюцыі паняцьця дэмократыі. Наша констытуцыя павінна вырашыць праблему лібэралізму з аднэй, і дыктатуры і сільнай дзяржавы — з другой стараны.

Праблема меншасьцяў павінна быць вырашана згодна з традыцыяй—роўнасьць праў пры роўнасьці абавязкаў. У праэкце правадыр дзяржавы стаіць над усялякімі партыямі, а дзяржава кіруецца органамі, збудаванымі герархічна. Конфлікты між імі вырашае прэзыдэнт. Такую вось агульную характэрыстыку праэкта констытуцыі даў праф. Макоўскі.

### Сытуацыя на збажжовых рынках.

На збажжовым краёвым рынку палажэньне бяз зьменаў. Дзякуючы інтэрвэнцыйным закупам PZPZ цэны на збожжа ў нас трымаюцца на нязьменнай роўні. Трэба аднак зазначыць, што роўня цэнаў зьяўляецца вельмі нізкай (за выняткам броварнага ячменя, прызначанага на экспорт). Вельмі нізка прадстаўляецца цана пшаніцы, якая ёсьць мала даражэйшая ад жыта. Калі-ж узяць пад увагу, што пшаніца вымагае лепшага грунту, лепшага ўгнаеньня і абработкі, то трэба прыйсьці да пераканаьня, што ўправа яе горш калькулюецца ад жыта. Дзеля гэтага можна прадбачыць, што пасеў пшаніцы зноў можа зьменшыцца на карысьць жыта. Агульная тэндэнцыя на нашых рынках зьяўляецца спакойнай і моцнай г. з. не прадбачыцца ў цэнах хуткіх зьмен на лепшае.

Звыжкі цэн можна спадзявацца толькі пасьля Новага Году, а можа нават і на вясну, калі запасы збожжа значна зьменшацца. Ясна, што земляробы атрымаюць з гэтага мінімальную карысьць.

## Літоўскі „байкот".

Літоўцы байкатуюць палякаў і ўсё польскае за тое, што Польшча не аддае ім Вільню, рэч зразумелая, байкатуюць літвіны і польскія фільмы. Але вось спадабаліся літвінам польскія фільмы—„10 z Pawiaka" і „Obrona Częstochowy". Выпісалі іх у Коўню і пачалі там накручваць, добра на іх зарабляючы, бо ўсім падабаліся. Каб-жа пагадзіць свае „кіновыя апэтыты з „нацыянальным байкотам" кінуліся на гэткую хітрасьць. Усім абвесьцілі, што „Obrona Częstochowy"—гэта фільм аўстрыяцкі, а „10 z Pawiaka"—гэта фільм расейскі, у якім гуляюць „артісты Александровскаго театра" — Савановіч (у сапраўнасьці ведамы польскі артыст Zbyszko Sawan) і Любава (артыстка Lubieńska). Словам, і воўк сыты і каза цэла. Дадаваць тут яшчэ нейкія камэнтары хіба ня прыходзіцца.

# У СССР КАСУЕЦЦА КАРТАЧНАЯ СЫСТЭМА НА ХЛЕБ.

Паводле вестак з Масквы, з 25 да 28 лістапада г. г. ў працягу трох дзён адбывалася там пленарнае паседжаньне цэнтральнага камітэту камуністычнай партыі, разважаючы над вельмі важнымі пытаньнямі, з каторых найбольшае значэньне мае скасаваньне картачнае сыстэмы на хлеб і муку з 1-га студня 1935 году.

На пленуме цэнтральнага камітэту гаварыў аб гэты сам Молатаў, зазначаючы, паміж іншым, што сільны рост гарадоў і шпаркае разьвіцьцё прамысловасьці ў некаторых раёнах выклікала вялікі попыт на хлеб.

Сельская гаспадарка ў СССР, — як прызнаўся Молатаў, — ня мела магчымасьці задаволіць гэты попыт, асабліва ў прамысловых раёнах і буйных гарадох, і дзеля гэтага прышлося ўвясьці картачную сыстэму на хлеб, муку ды іншыя важныя прадукты.

Далей Молатаў даказваў, што картачная сыстэма была адзіным выхадам з цяжкага палажэньня, бо, толькі дзякуючы гэтай сыстэме, ўдавалася арганізаваць дастаўляньне работнікам хлеба і мукі па цьвёрдай цане. Але адначасна з нормірованымі цэнамі на хлеб існавалі і г. званыя камэрцыйныя (падвышаныя) цэны на яго пры набываньні грамадзянамі хлеба бяз картачак.

— Савецкая ўлада мусіла рахавацца з існаваньнем гэтых дзьвюх цэнаў, бо хлеба не ставала,—заявіў Молатаў.

Цяпер, паводле словаў Молатава, палажэньне значна палепшала. *Колхозы* і *совхозы* пачалі здаваць хлеба больш, як раней. Савецкая ўлада нібыто мае вялікія запасы хлеба і ствараецца магчымасьць у поўнай меры забясьпечыць жыхароў Савецкага Саюзу хлебам і мукою, бяз ужываньня картачнае сыстэмы. Ствараецца быццам магчымасьць пусьціць хлеб у вольную прадажу бяз дзьвюх цэнаў—цьвёрдае або нормірованае ды камэрцыйнае.

8-га гэтага сьнежня Рада Народных Камісараў Савецкага Саюзу апублікавала ўжо дэкрэт аб скасаваньні картачнае сыстэмы на хлеб, пачынаючы з 1-га студня 1935 г. Картачкі касуюцца па ўсім СССР, які будзе падзелены на 8 раёнаў і, ў залежнасьці ад вокругу, будзе крыху зьмяняцца цана фунта хлеба, які пастуміць у вольную прадажу.

Цана фунта хлеба мае быць ад 90 капеек да 1 руб. 05 кап. Дасюль цана хлеба ў вольнай прадажы даходзіла да 5 руб.

Аднак-жа, разам з падвышэньнем цаны на хлеб прыдзецца падвысіць і заработную плату работнікам ды вураднікам, студэнтам-стыпэндыянтам і эмэрытам. Дзеля арганізацыі прадажы хлеба мае быць раскінена шырокая гандлёвая сетка дзяржаўных і коопэратыўных крамаў.

Да 1-га красавіка 1935 году павінна быць адчынена ня менш як 10.000 новых крамаў дзеля прадажы хлеба і мукі. Партыйныя арганізацыі абавязаны даць памешканьні для гэтых крамаў.

Адначасна маюць быць падвышанымі і цэны на іншыя сельска-гаспадарчыя прадукты (бульбу, табаку, лён і г. д.), а таксама на пушніну, каракуль, рыбу ды ўсё тое, што дасюль мянялася на хлеб.

Правясьці ўсе гэтыя меры даручаецца палітбюру і ўрадам асобных савецкіх рэспублік.

Гэтак прыходзіцца бальшавіком самым прызнавацца ў банкруцтве забойчае картачнае сыстэмы. Хоць позна, але вылазіць шыла з мяшка: робіцца ясным нават для нашых наіўных беларускіх камсамольцаў, (дзе гэткія яшчэ ёсьць на гэтым баку рыскае граніцы), што байкі аб савецкім дабрабыце, пашыраныя імі сярод нашага сялянства, былі звычайнаю маною. Калі сьпешна патрэбна аж дзесятак тысяч крамаў для прадажы хлеба па новай сыстэме (бяз картачак), дык нятрудна ўявіць сабе, якая бязхлебіца панавала ў Саветах дасюль.

Ці паправіцца, аднак-жа, палажэньне галодных нявольнікаў бальшавізму разам з адменаю хлебных картачак?

Чарговая бальшавіцкая рэформа выглядае, як тое латаньне Трышкінага каптана ў байцы: прыточыш каўнер, пакарацеюць рукавы або полы.

Паднімаецца цана на хлеб, а з гэтым падняць трэба і заработную плату, — для жыхароў гэта выйдзе адно на другое: ніякага палепшаньня ў іх дабрабыце чакаць ад гэтага нельга.

Польская Тэлеграфная Агенцыя, публікуючы гэты сэнсацыйны загад бальшавіцкіх уладаў аб скасаваньні з Новага Году картачнае сыстэмы на хлеб, заяўляе, што рэзультатам гэтае меры будзе падвышэньне цаны на хлеб да 2 рублёў (9 польскіх злотых) за кілё або на 50 процантаў, у параўнаньні з ранейшымі картачнымі цэнамі.

Палажэньне сялян ад новае рэформы ні ў чым ня зьменіцца на лепшае, а наадварот, можа нават моцна пагоршыцца, бо сыстэма хлебаздачы захоўваецца ўва ўсёй сваёй сіле, без падвышэньня над'звычайна нізкіх цэнаў, якія даюць сялянам за збожжа. Падвышэньне пэнсіяў вураднікам ды работнікам пагражае абніжэньнем вартасьці савецкае валюты.

Ангельская газэта „Таймс" у вялікім артыкуле абгаворвае палажэньне на савецкім харчовым фронце і піша аб пагоршаньнях, пачынаючы з чэрвеня месяца с. г. Раней работнік дастаў рэгулярны хлебны паёк і ад часу да часу яму выдавалі іншыя прадукты. З чэрвеня месяца палажэньне крута зьмянілася. Пайкі паменшалі, а падвышэньне пэнсіяў ані не пакрыла гэтага паменшаньня.

Цяпер, пасьля сканчаньня хлебазагатовак, дзяржава ізноў мае даволі хлеба, які прадаецца па картачках *у сем разоў даражэй за цану, якую за яго плацяць сялянам*, а ў дзяржаўных камэрцыйных крамах нават і ў 30 ды 40 разоў даражэй.

Цяпер савецкая ўлада абвясьціла, што картачная сыстэма на хлеб і муку будзе скасована і што хлеб будзе прадавацца жыхаром у камэрцыйных крамах.

— Аднак-жа, — піша „Таймс", — калі ня будуць зьменшаны цэны на хлеб, або, калі крута не пабольшацца заработкі, дык скасаваньне картак будзе азначаць галодную сьмерць пролетарыяту.

Бальшавікі, як ведама ўмеюць раструбіць кожную сваю рэформу на ўвесь сьвет. Дык і цяпер усе савецкія газэты дружным хорам запялі аб „хлебнай рэвалюцыі", пішучы пра „булку да гарбаты", пра „хлеб у краме" ды пра асортымэнты хлеба.

Паводле рэклямы савецкае прэсы, у СССР з новага году мае быць аж 220 сартоў хлеба, будзе нібыто г. зв. дыетычны хлеб і падковы з макам, грэбеньчыкі з цукрам, ленінградзкія калачы, бэрлінскія сарты малочнага хлеба, абаранкі з макам, гэткія, як ў Выбаргу, каўкаскі хлеб і інш.

Гэта — мінімальная праграма, якую, паводле вестак, падаваных РОСТ'ай, маскоўская крама „Гастроном № 1" дакляруе выпаўніць у сьнежні, пабольшыўшы колькасьць сартоў прадаванага ёю хлеба з 180 да 220-цёх.

Можна падумаць, што 180 сартоў хлеба выпякаюць савецкія пякарні ўжо цяпер. Але гэта ня так. Аказваецца, што з 82 пякарняў, — як піша „Вечерняя Москва",—МОССТРОПА толькі 25 маюць розныя сарты хлеба, а ў рэшце таргуюць толькі таннымі сартамі.

А як гэтыя „танныя сарты" прадаюць, відаць з гэткае характарыстыкі савецкае пякарні, зьмешчанае ў „Красной Газете":

„У вакне выліняўшыя каробкі ад цукеркаў, на якіх, апрача брудных плямаў, нічога нельга разабраць, абрыўкі нейкіх папяровых стужачак ды шэрая пасьцілка пылу. У сярэдзіне крамы аблупленыя сьцены ды падрапаныя прылаўкі. На палічках хлеб і булкі з памятымі бакамі, вельмі блядыя, таму што блага выпечаныя, або вельмі чорныя — падгарэлыя. Ля прылаўка чарга тых, што чакаюць, калі, нарэшце, ў пякарню з хлебазаводу прывязуць сьвежы хлеб. Гэтак выглядае пякарня, да якой вы прымацованы і ў якой бываеце кожны дзень. Вельмі часта вы дастаеце чэрствы хлеб. Здавалася-б, што найпрасьцей было-б выпушчаць у прадажу хлеб сьвежы, не даючы яму чарствець. Але сыстэма працы трэсту хлебапячэньня пабудована так, што экспэдыцыі хлебазаводаў дастаўляюць хлеб у пякарні вельмі няроўнамерна. Іншы раз хлеба дастаўляецца больш за норму і на другі дзень яго прыходзіцца прадаваць чэрствым".

Чым-жа тлумачыцца гэткае сумнае палажэньне? Аказваецца вось чым:

„Крама не зацікаўлена тымі, хто ў ёй купляе. Загадчык крамы і прадаўцы ведаюць, што той, хто купляе, ня скіруецца ў суседнюю пякарню, а возьме тое, што яму запрапануюць... Далей гэтага быць ня можа, — піша савецкая газэта, — скасаваньне картачнае сыстэмы павінна палажыць канец спажываньню чэрстваага хлеба... Цяпер па ўсіх пякарнях павінен прадавацца сьвежы дыетычны хлеб, а ў цукернях, на ўзор „Гастронома № 1", павінны зьявіцца глазіраваныя фрукты ў шоколядзе, шоколядныя цукеркі „Северное Сіяніе", шоколядны торт пралінэ, ромавыя бабкі ды ангельскія кэксы".

---

**Міхась Машара.**

# Падарожжа.

ЦЫКЛЬ II.

Аднаму з найлепшых таварышоў
майго жыцьцёвага падарожжа.
*дарагому Вячэславу Катовічу.*

Часам неба крыюць хмары...
А праз хмар заслону тую
Гляне сонца... На абшары
Усё зардзіць і закрасуе.

Так ў жыцьці ... У буднях шэрых
Знойдзеш дзесь душу блізкую, —
Міг!.. і ўспыхнець знову вера
У людзкую праўду тую...

Частка I.

I.

Я зноў вярнуўся з падарожжа
Да родных сьцежак і палёў,—
I май чароўны і прыгожы
Жыцьцёвым шляхам зноў прайшоў.

I гэтым разам я ня бачыў
У маім садку разквіт яблынь...
I без мяне быў гай зьвінячым...
I пад вакном цьвіцеў язьмін...

Не для мяне зялёным на задворках
Шумела з ветрам лебяда;
I толькі сонца на ўзгорках
Шукала ўсьцяж майго сьляда.

А я ў вандроўцы прымусовай,
Пакорны праву і загаду,
Хадзіў на звыклы збор вайсковы,—
Чатыры тыдні быў салдатам.

I многа зьяў і ўражань новых,
Людзей і месцаў бачыў я,—
Але да родных хат вясковых
Усьцяж ірвалася душа.

II.

О, вёска! вёска-матка.
У тваім пахучым падале
Я пасьвіў зораў стадкі,
Пад плотам спаў на лебядзе.

На дрэвах ножам знакі
Лажыў на памятку гадоў;
Хварэў тугой бадзякі
Пад шум прывольных каласоў.

А колькі гнёзд вароньня
У лесе нішчыў пастухом...
Затое так тваё улоньня —
Дзе-б я ня быў—завець дамоў.

Люблю цябе з тваей галотай,
З тваім зьдзічэньнем і цямрой;
Хварэю сам тваёй бядотай,
Тваёй дзіцячай прастатой.

I між палёў тваіх аўсяных,
Прыгожым п'яная душа,
Табе із ветрам расьпяяным
У песьнях моліцца яна.

III.

I вандраваць па шляху новым,
З вандроўнай торбай і кіём,
Я рад заўсёды, і гатовы
Ісьці... знаёміцца з жыцьцём.

Мана! што край наш ня прыгожы.
Мана! што сумна—невясёл...
Дзе столькі ніў, шумячых збожжам?!.
Дзе столькі ёсьць зьвінячых сёл?!.

Ён толькі чымсь нядобрым хворы...
I хвора—цела і душа;
Але... сягоньня ўсё ўзморы,
I хвора—ўся зямля.

Але да рэчы!.. і спачатку.
З табой мы, муза, як-нібудзь
Яшчэ раз пройдзем папарадку
I апяем вандроўны пуць.

IV.

I гэтым разам падарожжа
Пачну з Шаркоўшчыны ізноў, —
Хоць вы падумаеце, можа,
Што клінам сьвет мне тут зышоў...

О, не!..
Мае шырокі кругазоры,
I конь мой быстры на скрыльлі:
Мы з ім лунаем аж да зораў!
Часамі—з нуднае зямлі.

Але... Шаркоўшчына—вароты
У шырокі сьвет з таго кута,
Дзе лёссвой нудны і гаротны
Цягну яшчэ ў ярму жыцьця.

Я апяваць цяпер ня стану
Яе людзей, жыцьцё і бруд;
I так, чужынцам нявітаным,
Прайду спакойна—ціхім тут.

Хоць чую: звоніць там, у сэрцы,
Зноў муза вострая мая,
I так хацелася-б,—паверце, —
Сьцябнуць па кімсь —
Хоць паўвярша...

Але —
Нат' Коопэратараў з-пад „Зоркі",
З іх слаўным „Шышкай" на віду,
З іх плутаўнёй нясмачна—горкай,
Як яму з брудам,—абыйду.

I нат' ксяндза з папом, як трэба,
Я сёньня тут не памяну;
Няхай таргуюць сьвятым небам,
I страшаць—грэшную зямлю.

V.

Ты, муза—братка, ціха, ціха:
Падходзім—бачыш—да касьцёла,
Ня зроб яшчэ якога ліха;
Будзь лепш рахмана і вясёла!

Тут жыў наш слаўны „аптымісты",—
Яго ты ў песьні пахваліла:
I больш ужо не арганісты...
Камусь было гэта ня міла.

Іграў на арганах так слаўна!
Маліўся Богу сорак год,
I пры касьцёле свой быў здаўна!
... А ўміраць пайшоў пад плот.

I бунтаваліс ўсе мы тайна,
Нясмачна кожнаму было,
Але... як водзіцца звычайна,
Ня крыкнуў протэстам ніхто.

Сабраўшы торбы і манаткі —
Пайшоў у сьвет стары сьпявак:
Яшчэ адзін бяздомнік гладкі...
Прыбыў яшчэ адзін жабрак!

I ты, Казюк, пайшоў за імі;
I ты—адзіны дружжа мой!

# Хто вінаваты

За апошнія гады ў польскіх газэтах ад часу да часу трапляюцца зацемкі аб беларускім жыцьці. Розныя па сваёй вонкавай форме яны амаль усе маюць аднолькавы зьмест, аднолькавы падыход да разгляданага пытаньня. Аўтары гэтых зацемак, відаць, бяруць матар'ял ня проста з беларускага жыцьця, але ад тых ці іншых інфарматараў, бо вельмі часта самі стаяць далёка ад сапраўднага жыцьця беларусаў. Ці-ж можа польскае грамадзянства, калі-б яно нават і цікавілася беларускім пытаньнем, па гэтых інфармацыях сачыць за зьменамі, якія адбываюцца у беларускім жыцьці? Хіба што не. Дзеля гэтага асаблівую вагу мусяць мець тыя спасьцярогі, якія просяцца непасрэдна, калі праявы жыцьця малююцца так, як яны выглядаюць у сапраўднасьці, калі няма спэцыфічнага падыходу да гэтых праяваў.

Вось-жа такім зьяўляецца артыкул, зьмешчаны у газэце „Kurjer Wileński“ пад назовам „W Gimnazjum Białoruskiem“, дзе некалькімі штрыхамі адмалёваны настрой беларускай моладзі ў сувязі з агульным настроем беларускага грамадзянства. Якжа іначай тлумачыцца тут гэты асаблівы настрой беларускай моладзі, чымся ў некаторых польскіх а нават і беларускіх газэтах, якія ў-ва ўсім гэтым бачылі толькі „камуністычную акцыю“, не разумеючы наагул псыхікі беларускіх шырэйшых масаў.

У канцы артыкулу зроблена увага, што беларусы не патрапілі зацікавіць сваімі справамі шырэйшага польскага грамадзянства, як прыкладам, зрабілі украінцы. Але віна тут не адных беларусаў. Саўпраўды, польскае грамадзянства вельмі мала цікавіцца беларускім жыцьцём і вельмі мала аб ім ведае. Нават у даўнейшай царскай Расеі прадстаўнікі пэўнай групы паступовага польскага і расейскага грамадзянства больш цікавіліся і больш ведалі аб настроях і жыцьці беларусаў, хоць беларускі народ тады толькі будзіўся са сну, толькі гатаваўся да новага жыцьця. Тыя часы, калі ў адроджанай Польшы пэўныя колы грамадзянства ўважалі, што за пяцьдзесят гадоў беларусаў зусім ня будзе, даўно мінулі. Наадварот, статыстыка паказвае, што сярод] беларусаў заўважваецца найбольшы натуральны прырост у параўнаньні з іншымі народамі Польскае Дзяржавы. Добра зразумець праявы беларускага жыцьця можа толькі той, хто да іх падыходзіць шчыра, хто іх наглядае так, як яны ёсьць у сапраўднасьці. І гэта неабходна да паразуменьня між сабой народаў польскага і беларускага. *Ст.*

---

Аб адным толькі маўчыць савецкая прэса: Якою дарагою цаною прыдзецца савецкаму грамадзяніну ўсе гэтыя ласункі здабываць?! *С.*

---

# З царкоўнага жыцьця.

*Беларускія выданьні сьв. Сыноду.* Як ведама, сьв. Сынод выдаў ужо некалькі праваслаўна-беларускіх кніжак, якія аднак пасьля выданьня ляжалі ўсе на складзе і ніхто ня мог імі карыстацца. Апошнім часам Мітрапаліт Дзяніс выдаў загад, каб гэныя кніжкі былі неадкладна і дзейна распашыраны паміж прав. насельніцтвам Зах. Беларусі.

*Першыя ластаўкі.* Мы ўжо пісалі, што Мітраполія пачала перакладаць на польскую мову літургію. Ад шмат каго можна было пачуць, што гэта дарэмная праца. Тымчасам, яшчэ няма таго перакладу, а ўжо адпаведныя дух. улады атрымалі з Беластоку ад „prawosławnych polaków“ просьбу аб тым, каб пропаведзі ў тутэйшай царкве і частка багаслужэньняў вяліся ў польскай мове.

*Валынская неразьбярыха.* На Валыні ўсё яшчэ вядзецца барацьба украінцаў з расейцамі. Частка духавенства адмовілася ад паслухмянасьці арх. Аляксею і аддалася пад уладу мітр. Дзяніса. Украінская газэта „Діло“ абвінавачвае за гэта мітр. Дзяніса. „Укр. Нива“, заўсёды стаяўшая па старане арх. Аляксея, апошнім часам выступіла супроць яго, закідаючы яму... русафільства і гэта ў час, калі расейская прэса закідае яму... украінафільства. Тымчасам ваеводзкія ўлады двух „столпов русскаго православія“— сьв. Выдыбіду-Будэнку і Барэцкага выдалілі з межаў валынскага ваеводства. Сьв. Выдыбіда-Будэнка мае атрымаць пасаду, рэч зразумелая... у Віл. Эпархіі.

x

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

— *Хаўтурная акадэмія.* 8. XII. 34 г. адбылася ў памешканьні Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры хаўтурная акадэмія, прысьвечаная памяці памёршага праф. Бр. Эпімах-Шыпіллы.

— *З студэнцкага жыцьця.* — 7 сьнежня Бел. Студ. Саюзам было зладжана юбілейнае сьвяткаваньне 40-х угадкаў сьмерці Адама Гурыновіча, беларускага паэта і этнографа ды грамадзкага працаўніка, студэнта тэхналёгічнага Інстытуту ў Пецярбурзе, памёршага на 25 годзе свайго жыцьця. Рэфэраты прачыталі мгр. Я. Шутовіч і абс. М. Пяцюкевіч.

— Дня 9 сьнежня г. г. адбыўся агульны надзвычайны сход сяброў Бел. Студ. Саюзу. Пастановай сходу з ліку сяброў Саюзу выдалены студэнты Грамыка і Смаль а гэта з прычыны іх дзейнасьці, разьмінаючайся са статутам Саюзу. У Урад давыбраны студэнты С. Сарока і М. Якімец.

— 13 сьнежня г. г. адбылося паседжаньне Ураду Бел Студ. Саюзу, на якім праведзены наступны падзел функцыяў: старшыня—М. Шчорс, віцэ-старшыня — С. Сарока, сэкрэтар—В. Войтэнка, скарбнік — Т. Трафімучанка і гаспадар—М. Якімец.

— *З дзейнасьці Беларусаведы.* —У нядзелю 16 г. г. адбылася чародная навуковая зборка Т-ва Беларусаведы, на якой д-р. Я. Станкевіч прачытаў рэфэрат на тэму: „Месца паўстаньня і аўтары беларускага Летапісу“.

— Пасьля Каляд Т-ва Беларусаведы мае выдаць друкам „Апытальнік да зьбіраньня дыялектычных асаблівасьцяў беларускае мовы“; адначасна Дыялектычная Сэкцыя Т-ва апрацоўвывае да друку два слоўнікі: польска-беларускі і дыялектычны.

— *Поэма М. Машары.* Вышла з друку поэма М. Машары п. н. „Сьмерць Кастуся Каліноўскага“, выданая кс. Ст. Глякоўскім і Яз. Найдзюком. Цана гэтай кніжшкі 25 гр., выпісаць яе можна з беларускіх кнігарняў у Вільні.

— *Ёлачка для дзяцей.* Выдавецтва дзіцячага часапісу „Пралескі“ прыступіла да зладжаньня для віленскіх беларускіх дзетак у надыходзячыя Каляды супольную ёлачку. Вечар гэны адбудзецца 9. I. 35 г. у памешканьні Бел.-інст. Гасп. і Культуры.

# З Віл. Бел. Гімназіі.

У суботу 15 сьнежня б. г. адбыўся канцэрт, зладжаны Бацькоўскім Камітэтам Беларускай Дзяржаўнай Гімназіі ў Вільні.

У праграму ўваходзілі: песьні, выкананыя хорам пад кіраўніцтвам гр. Шырмы, дэклямацыі, пяяньне салістаў і музыка вучнёўскае аркестры (струннае).

Пачаўся і скончыўся канцэрт выступленьнем хору, які прапяяў больш 15 песьняў, пераважна новых, дагэтуль нячутых.

Хор пяяў добра, асабліва ўдаліся песьні бойкія, але найлепшае ўражаньне зрабілі народныя песьні. Шкада толькі, што гэтых было ня шмат. Некалькі нумароў прапяялі салісты— гр. Крэчат (папольску і пабеларуску) і гр. Невядомскі (папольску). Кварцет вучнёўскае аркестры таксама добра выканаў некалькі нумароў, а дэклямацыі дадалі патрыятычнага настрою слухачам. Агулам канцэрт зрабіў на слухачоў добрае уражаньне. Публікі было як заусёды на такіх вечарох — не зашмат, але-ж і ня мала, бо амаль поўная заля.

Кіраўнікі хораў, павінны ў будучыні найлепшыя народныя песьні пяяць на кожным выступленьні і такім чынам іх папулярызаваць.

*Слухач.*

# Заграніцай.

× Савецкія газэты афіцыяльна даносяць, што забойства Кірова зьяўляецца справай опозыцыі Зіноўева (Зіноўеў у свой час быў адным з правадыроў компартыі).

Рэзалюцыя маскоўскіх партыйных організацый дамагаецца помсты і рэпрэсый у адносінах да зіноўеўцаў! Як вядома, опозыцыя Зіноўева паўстала ў 1925 годзе і была зьліквідавана Кіровым.

× Савецкія газэты даносяць аб бунце монгольскай кавалерыі ў правінцыі Хінган. Забіўшы японскіх і манджурскіх афіцэраў, бунтаўшчыкі заатакавалі горад Тун-Ляо. Выслана карная экспэдыцыя.

× Як даносяць з Харбіна, ў паўднёвай частцы мукдэнскай правінцыі распаўсюджваюцца праклямацыі, якія заклікаюць кітайцаў да барацьбы з Японіяй.

У самым Мукдэне падпалена шмат дамоў.

Шмат асоб арыштавана. Сытуацыя ў Монголіі робіцца што раз больш напружанай.

---

Адзін з тых лішніх, між жывымі,
Як-я, з бяздомнаю тугой.

Дзе ты цяпер, Казюк мой любы!
Як там змагаешся з жыцьцём?
Ці ў гэтым блудзе хопіць сілы
Дайсьці да мэты, пад крыжом...

VI.

Цямнее... Мягкаю пяшчанай
Лажыцца нанач летні змрок.
Зара чырвонай пазалотай
Румяніць хат падзорны бок.

Заціхнуў рух на бруку вуліц...
Яшчэ адзін пражыты дзень!
І дрэмай цёплай ціха туліць
Кругом вясьнянай ночкі цень.

Працоўны люд заснуў наўкола,
На міг запомніўшы усё:
Усе трывогі, радасьць, гора,
Усе клапоты і жыцьцё.

VI a.

Ідуць на спацар да „Зьвярынца“
Жыдкі, жыдовачкі з мястэчка.
„Зьвярынец“—гай
(Наўзбоч гасьцінца)
А далей там, за гаем—рэчка.

Мясьціна—дзе жывуць аморы,
І закаханы салавей
У звонкай песьні з пераборам
Сьпявае гымн красе і... ёй.

І жабы ў сажалках, ля двору,
З вясьнянай радасьцю жыцьця
Сьпяваюць п'яныя задорам,
Аж нават глушаць салаў'я.

Дык маладое пакаленьне
Мяшчан багатых і жыдоў—
Прыходзіць слухаць ў захапленьні
Вясьнянай ночкай:
Амораў, жаб і салаў'ёў.

VII.

Але пара... У разважаньні
Я замарудзіў на пуці;
Там пэўна хутка з цёмнай грані
Цягнік павінен надыйсьці.

Ты, муза-братка, вышэй вочы!..
І полы, братка, падкасай!..
Падхозім—бачыш—да дарогі,
Да тэй зялезнай,—тут зважай;

Ці як завуць яе—чыгунка
(Каб не чапаўся хто да слоў).
Дзьве рэйкі пругкія, як стрункі,
Ляглі у даль праз плёс палёў.

А вось і станцыя!.. Пад вокам
Двух электрычных ліхтароў
Стаіць, заслухаўшысь глыбока
У шум гусьцеючых жытоў;

Будынак неякі стылёвы, —
Прызёмісты... кругом хаднік;
Усюды чыста, зграбна, нова...
Жыве тут пышна кіраўнік.

VIII.

Пайдзем-жа, муза, за білетам
(Хадзілі досыць пехатой)
Давай, глыбей у вочы сьвету
Зірнём і мы крыху з табой!

Пакінем грубы кій вандроўны,
З якім знаёмы доўгі час, —
Яшчэ калі Пягас праворны
Вазіў з-за крат да вёскі нас.

Пакінем кій!..
І разьвітаемся з Пягасам;
Быстрэй яго сталёвы зьвер;
І мы, ў вандроўцы гэтай нашай,
На ім праедземся цяпер.

Але зайдзем да пачакальні...
Народу звыкла тут нямнога;
Тымчасам мы ў торбу глянем
І перакусім на дарогу.

Дзьве лавы... стол на ўсю каморку...
Сядай-жа, муза, ў самы кут!
Зацьмім з прыемнасьцьцю махоркі
І адпачнем мы крыху тут.

IX.

Люблю я дзе-нібудзь часамі
Падслухаць гутарку чыюсь, —
Здаецца, чую за плячамі
Цябе—жывая Беларусь.

Вось перакупкі дзьве з кашамі
Так згодна жалюцца на час:
„Так, так... гаворучы між намі,
„Што за жыцьцё цяпер для нас!

„Заробіш марную грашыну,
„А цяганіны колькі тэй!
„А то натрапіш на прычыну...
„Дый што казаць... штораз—гарэй!“

— Так, так, кума,—цяжкая доля!
— Прышло жыцьцё—адна бяда.
— І час так цягнецца паволі...
— Ніскуль направы ні сьляда.—

X.

А там на лаўцы, каля столу,
З салідным выглядам такім,
У трох—гармідарам вясёлым—
Вядуць дыскусыю над чымсь.

Усе апранутыя чыста...
Грубое пуза... тучны твар:
Сучасны тып
Шчасьлівых оптымістаў,
Наш беларускі жыд-гандляр;

Ня новы тып,
Усім вядомы,
Ліпучы надта і мягкі;
Усюды чуецца як дома, —
Як караед які благі.

XI.

А тут—ў кутку, ля самай печы,
У простых сьвітках дзядзькі два:
Ад працы згорбленыя плечы,
А твар—жаўклявая смуга.

Пацiху гутараць аб нечым,
Нясьмелы ў рухах і славох,
І ціхі сум тугой адвечнай
Мігціць ў разсьвечаных вачох.

О вы, маркотныя сяляне!
Другіх – слуга і ўладар!
Калі вам у вочы радасьць гляне
І разпагодзіцца ваш твар?!.

„Дзядзькі—да Вільні?“ я пытаю.
— Да Вільні, братка... ездзім там:
— У судзе мы вёскай справу маем:
— За сэрвітут цягае пан...—

(*Працяг на 4 стар.*).

## Нездаваленьне сярод савецкіх чыноўнікаў і рабочых.

Нягледзячы на катэгарычную дырэктыву Савнаркома СССР і ЦК компартыі ад 30 лістапада, якая забараняе самавольнае павышэньне заработнай платы, кіраўнікі цэлага раду арганізацый і інстытуцый павысілі заработную плату паасобным працоўнікам. У сувязі з гэтым шмат асоб—кіраўнікоў розных прадпрыемстваў—звольнена з пасад і аддана пад суд.

У апошніх часох сярод савецкіх чыноўнікаў і рабочых узрастае нездаваленьне з прычыны росту цэн на хлеб і недапушчэньня павышэньня заработнай платы.

✕ У Гішпаніі выйшаў загад аб канфіскаце ўсей маемасьці, пасьля зьліквідаванай урадам комуністнай і соцыялістычнай партыі.

✕ Як даведываемся з Масквы з ліку 37 арыштаваных украінцаў у Харкаве, Кіеве і Адэссе 29 чалавек разстрэлены.

✕ Нямецкая прэса даносіць аб тым, што Літвінаў дамагаецца ў Жэнэве, каб прадстаўніку СССР у Лізе Народаў Розэнбэргу быў даручаны палітычны аддзел Лігі. Старшынёй гэтага аддзелу, які, між іншым займаецца справамі аб Гданску і Саары, зьяўляецца ангельскі прадстаўнік. Ангельцы супраціўляюцца гэтым дамаганьням Літвінава і прапануюць Розэнбэргу кіраваньне гаспадарчым аддзелам, якім раней, да выступленьня Нямеччыны з Лігі, кіраваў нямецкі дэлегат.

Як відаць, савецкі ўрад рашыў браць актыўны ўдзел у працах Лігі Народаў.

## Кароста ў авец.

Хваробу гэтую выклікаюць спэцыяльныя клешчы. Найболей пашыраецца кароста ў авечак восеньню і зімою. Заражаныя каростаю авечкі, дзякуючы сьвербу, вырываюць шэрсьць на хворых месцах рагамі і нагамі, скубяць зубамі, скрабуцца аб розныя прадметы і качаюцца па зямлі.

Пры зьяўленьні каросты трэба аддзяліць хворыя і падазроныя на хваробу авечкі ад здаровых. Зімою хворыя месцы заліваць трэба скіпідарам. Вясною-ж хворых авец стрыгуць, а пасьля праз нейкі час іх купаюць у адвары тытуню. Такое купаньне трэба паўтарыць праз 6-8 дзён. Замест тытуню ужываюць яшчэ для купаньня авец лугавы рошчын мышякавістай кісьлі.

# З выдавецкае нівы.

*Міхась Машара. Сьмерць Кастуся Каліноўскага. Поэма. У 70-тыя ўгодкі Яго сьмерці (1864—1934).* Вільня, 1934. Выданьне Ст. Глякоўскага і Яз. Найдзюка. Бел. друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні.

Шчыра надыхнёны малады талент М. Машары снуе лёгкім, як быццам лермантаўскім, вершам сваю поэму аб сьмерці бясстрашнага барацьбіта за свабоду свайго краю, за свой беларускі народ, за яго права быць гаспадаром на сваёй зямлі.

Паўстаньне згашана зламана,
Надзея згублена ізноў.
Па Краі ўсім крывавяць раны
Пад дзікі рогат казакоў.

Гуляюць царскія найміты,
Гуляюць каты і прымус!
Літва і Польшч крывёй заліты,
Ляжыць стаптанай Беларусь...

Гэтак пачынае Машара сваю поэму.

Праўда, верш Машары ня зусім лермантаўскі, ня ўсюды вытрыманы ў рытміцы, як напр. у канцы поэмы:

— „Ня шляхціц я!...
У нас паноў няма!
У нас ёсьць толькі працы люд
І за яго я гіну тут!

. . . . . . . . . . . . . . .

І згінуў ён—ахвярны і вялікі,
Пад шум таўпы і бубна гук,
Павіс—змагар Кастусь.
І з тых ніхто ня чуў, каго ён
клікаў
Ў апошні час сьмяротных мук, —
Бо спала Беларусь.

Тут асаблены ня толькі рытм, але і сэнс, бо Каліноўскі ня мог сказаць: „У нас паноў няма", — паны былі, яны не зьвяліся, як той казаў, і дасюль у... нас, дый не сказаў гэтага вялікі краёвы герой, як ведама з апісаньняў яго казьні.

Як віцаць, тут поэт хацеў сваёю фантазіяй даць крыху гусьцейшыя хварбы для гісторыі сьмерці Каліноўскага, ну — і крыху... перагусьціў іх.

Здараюцца ў поэме і барбарызмы:

„Душу *акутала* няволя"...

Для рыфмы, ці што, ўжыта аўторам слова *пір* (піру—цару).

*Пір*—пабеларуску *баль*. А калі ўжываць ўсё такі слова *пір* будзем у месным склоне, дык канчатак будзе *ы*, а ня *у* (на піры, а не на піру).

Карэктар, ці сам аўтор дапушчае граматычныя адступленьні: сьвецюць (правінц.), замест *сьвецяць*, хочыць, замест *хоча, хочаць* (правінц.), крынічуць, зам. *крынічаць*, сьінеш, замест *скінеш*.

Для рыфмоўкі аўтор сьведама ўжывае расейскія звароты: ня трусь (ня *трусі*), адклікнусь (*адклікнуся*), ня лічачыся з тым, што мова беларуская ніколі не дапушчае націску у гэтым слове на *усь*, націскаецца тут заўсёды склад *клік*. Для рыфмоўкі таксама ўжыты русіцызм: „*падхалімаў*".

Наўрад ці сам Машара вінават у гэтак надрукованым штрофе:

„Судзьдзя адкашляўшыся й
паважна
Вялізну кнігу расхрыстаў
І тонам строгім і выразным
Свой суд пытаньнем распачаў...

Калі выкінуць з „адкашляўшыся" зусім лішняе *шы*, дык рытміка верша будзе поўнай.

Зусім расейскі, можна сказаць пушкінскі, зварот знаходзім на бач. 13-ай поэмы:

„Ўжо блізак, блізак дзень расплаты"...

Поэма займае толькі 19 бачынак фармату 8, вокладка ўпрыгожана малюнкам, які адбівае змагара за кратамі; перад тэкстам поэмы зьмешчаны партрэт К. Каліноўскага.

Поэму маладога беларускага таленту павінен мець у руках кожны беларускі чытач. Героічныя сюжэты з нашае мінуўшчыны рэдка пападаюць у скарбонку беларускага мастацтва.

Машара ўзяўся даць нам поэтычны абраз аднаго з героічных мамэнтаў нашае сумнае гісторыі, укладаючы ў вусны героя свае поэмы словы нязвычайнае часамі сілы:

„О, мой народ!
О, Край мой сонны,
Цябе, слабы я,—ня збудзіў!
Ты сьпіш, як спаў, душой
пакорны
І сонны блудзіш, як блудзіў"...

Пісаць вершы ў нас любяць аж занадта, але нешта падобнае выходзіць можа толькі з-пад пяра праўдзівага таленту. *К. М.*

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

## Пісьмо у рэдакцыю.

Дзелючыся сваімі скромнымі ўспамінамі аб памёршым праф Бр. Эпімах-Шыпілле, я зьвярнуў увагу на тое, што „Бел. Крын.", а за ёй і некаторыя польскія газэты (Słowo) ня правільна пішуць прозьвішча памёршага, бо пішуць яго Шыпіла, замест Шыпілла.

Аднак гэтая самая памылка паўтараецца і надалей (Бел. Кр. 16.XII.1934).

Па маёй думцы п'етызм, з якім павінна адносіцца беларускае грамадзянства да заслугаў праф. Бр. Эпімах-Шыпіллы, павінен праяўляцца і ў правільным пісаньні ягонага прозьвішча.

Зьвяртаю на гэта ўвагу на бачынах „Род. Краю" ў вялікай меры на просьбу блізкай сваячкі памёршага, гр. Ядвігі Эпімах-Шыпіллянкі.

З пашанай
*Я. Зенюк.*

## Выбары на Валыні.

— На Валыні скончыліся, на абшары паветаў і гарадзкіх самаўрадаў, выбары да ваеводзкай рады. На 14 сяброў рады выбраны 7 палякаў і 7 украінцаў. Усе выбраныя зьяўляюцца сябрамі, альбо сымпатыкамі BBWR, альбо ўкраінскага аб'яднаньня, ўваходзячага ў склад Беспартыйнага Блёку.

## Украінцы ў Польшчы пратэстуюць.

У украінскай „Праўдзе", зьмешчаны сяньня пратэст прэзыдыюму „Ундо" і украінскага парлямэнтарнага прадстаўніцтва проціў прысуду на кару сьмерці 28 пісьменьнікаў і дзеячоў Савецкай Украіны.

Пратэст зьмяшчае ў сабе 8 пунктаў, якія востра крытыкуюць унутраную сытуацыю Савецкай Украіны і атакуюць савецкую палітыку на Украіне, абвінавачваючы савецкі Урад у перасьледаваньні украінскай інтэлігенцыі.

## Ад рэдакцыі.

Тых падпісчыкаў, якія нерэгулярна атрымоўваюць „Родны Край", просім паведамляць аб гэтым Рэдакцыю, якая са свайго боку зробіць адпаведныя захады.

---

І пачынаюць мне аб справе
Тлумачыць, як і што стаіць.
Мне гэта мо' і няцікава,
Але.. люблю пагутарыць.

XII.

Далей там—людзі „z towarzystwa":
Абшарнік, поп і пань з пяток,—
Калечуць польскі ўрачыста,
Вясёла зьбіўшысь у куток.

Жывецца ім ня надта блага,—
Відаць па аблічы і па ўсім,—
Хаця ўздыхаюць з тайнай смагай
Аб тым,
Што ўжо разьвеялась як дым.

Ім сьніцца „król" і панаваньне
Над хамам цёмным і прастым,
Цяпер-жажоўць і нараканьне
На лад грамадзкі і рэжым.

XIII.

Але, вось стукнула ваконца:
„Panowie, proszę po bilety!"
Ідзем да касы ў перагонку,—
У каморцы рух і звон манэты.

Адтуль усе, па адным, за дзьверы
Туды, на двор...
І ўглядаемся ў муць.
Усходзіць месяц.
У небе шэрым
Мільёны зор
Дрыжаць, зіяюць і плывуць.

Аж раптам там уноч, з-за гаю,
Сьвісток цягучы і гулкі!..
І вочы яркія лунаюць
На шлях сталёвы і гладкі.

І ўсьцяж расьце, расьце почвара...
Яшчэ адзін зьвярыны рык!
З ласкотам,
З шумам,
З енкам пары,
Кругом абдаўшы пахам гары,
Прыйшоў і стаў—цягнік.

У сажу змурзаны, спацеўшы,
Здаецца зьвер гэты жывым;
Уздыхае, цяжка разсапеўшысь,
Як-бы зьняможаны зусім.

А ля яго, як рой мурашак,
Таўпа рухомая людзей:
Ў руках вузлы, пакункі, пачкі...
Снуюць у дзьверы і з дзьвярэй.

XIV.

Пайдзём-жа, муза, да вагону,
Займём там месца дзе-нібудзь, —
Маёвай ночкай ў даль разгонна
На гэтым зьверу рушым ў пуць.

Пайдзем туды, ў вагон апошні...
Па сходах—раз!.. у вагоне ўжо:
Прасторны, сьветлы і парожні...
Сядаймо, муза, пад акно!

Выгодна, чыста ў сярадзіне...
Газовай лямпы яркі сьвет...
(Ня ў шэрай хаце пры лучыне,—
Дзе з музай месьцішся паэт).

XV.

Вакно адчынена
Прад намі
Касьцёла вежы дзьве, як сьвечкі;
І месяц жоўты над крыжамі
Глядзіць на соннае мястэчка.

Заснулі, „Янкі" і „Сымонкі",
Заснуў увесь „тутэйшы" люд.
Глыбок іх сон... як ўсей старонкі...
Хай сьпяць...
Я веру—ўзойдзе сонца,
Жыцьцё і рух разбудзіць тут.

Сьвісток!
І рушыў конь сталёвы...
І нястрымана пнецца ў даль.
Па рэйках звоніць рытм мяровы,
Зьвініць—разбуджаная сталь.

XVI.

Гляджу ў акно...
Зьнікаюць самі
Мястэчка, хаты ў мутнай мгле,
І абразы за абразамі
Бягуць чаргой каля мяне.

І толькі месяц нярухомы
Адзін, няўзрушаны нічым,
Глядзіць з усьмешкаю сьцюдзёнай,
Як быццам знудзіўшысь усім.

Вось хутары!.. мурашкі—хаты,
Мільгнуў, схаваліся за гай.
За гаем двор... і двор багаты.
За дворам—сад...
Дзе сьпіць—вясёлы май.

XVII.

Далей тут, плямай цёмнай, вёска
Ў спакою сонным залягла;
За ёй жытоў шнуры—паласкі
І рунь зялёнага аўса.

За аўсамі рэчка срэбрнай зьмейкай,
Над ёй заснуўшыя кусты;
А далей лес ў задуме нейкай,
Маўклівы, цёмны і густы.

У гушчу дрэў, як тайне ў вочы,
Дарма ўглядаюсь пільна я:
Русалкі сьпяць і не хахочуць,
А лясуноў... мо' ўжо няма?..

Заснуўшы лес, як цень закляты,
Стаіць таёмны і глухі,
І толькі госьць якісь крылаты
Зьнікае спуджаны ў цішы.

О, Край таёмнага спакою!
Нямое царства мар і сноў!
Азьяць-бы сонца пахаднёю
І... цемнату тваіх куткоў!..

XVIII.

Далей нясецца конь сталёвы.
Калёс рытмічны стук і звон
Трывожыць ціш начы маёвай,
Яе нямы спакой і сон.

Мінаем поле, лес, балоты,
Мястэчкі, вёскі, хутары;
І будзім станцыі з дрымоты,
Сьвістком вітаем ліхтары.—

І далей, ў ноч...
Дзе ў срэбнай хмарцы месяц едзіць,
І зор зіяе грамада,
Дзе сьветлы май на красках дрэміць,
І ціха так—
Заснуўшая зямля.

Але і ты штось, муза, ціха.
І вочы клеюцца твае...
Давай і мы задрэмім крыху.
— Прыемных сноў! —
Бывайце ўсе!..

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА.

Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22